# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 6 (65) Травень 2012 г.

## Касацыйная скарга Сяргея Каваленкі не задаволеная

**18 траўня Віцебскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу Сяргея Каваленкі на рашэньне Першамайскага райсуду, які прысудзіў актывісту 2 гады і 1 месяц зьняволеньня.** У залю суду, якая была запоўненая пераапранутымі супрацоўнікамі міліцыі, пусьцілі толькі выканаўцу абавязкаў старшыні Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ на Беларусі Юрася Беленькага, адказнага сакратара ўправы партыі Алеся Чахольскага, а таксама бацьку Сяргея.



На пачатку суд не задаволіў хадайніцтва аб прысутнасьці на разглядзе скаргі самога Сяргея. Юрась Беленькі распавёў: «Адвакаты падтрымалі хадайніцтва. Аднак пракурор сказаў, што раней усё было дасьледавана, таму, маўляў, наўрад ці што новага мы пачуем ад Сяргея Каваленкі. Пасьля перапынку суд падтрымаў пракурора».

Паводле Сяргеевага бацькі спадара Аляксандра, працэс цягнуўся каля гадзіны. Ён лічыць, што рашэньне суду было падрыхтавана раней: «Прасілі, каб на судзе прысутнічаў Сяргей, але пракурор сказаў, што абвінавачаны можа не прысутнічаць. Я там выступіў, што, вядома, у такім выглядзе, з вагой у 45 кілаграм, куды ж вы яго павезяце, каму ж вы будзеце паказваць яго? Ён жа як вязень Бухэнвальду. Усё ж было надумана, усё падрыхтавана».

Паводле Юрася Беленькага, адвакаты аргумэнтавана паказалі неканнасьць прысуду, але пракурор заявіў, што нібыта ў дзеяньнях Сяргея «быў намер». Пасьля нарады суд абвясьціў сваё рашэньне.

«Я ім гучна сказаў, што вы чакаеце суду Божага. Бо за такое будзе суд. Апусьціўшы галовы, калегія разам з пракурорам сышлі з залі. Адносна гэтых людзей, якія насамрэч так цынічна, дэманстрацыйна парушаюць закон, асуджаюць невінаватага чалавека, апроч суду Божага, павінна быць і рэакцыя людзей. Калі Захад насамрэч ня хоча бачыць на сваёй тэрыторыі такіх людзей, то гэта правільна. Навошта ім пускаць на сваю тэрыторыю людзей, якія па сваёй сутнасьці такія вось? Санкцыі адносна такіх асобаў павінны быць працягнутыя. Пабыўшы на такім працэсе, я зрабіў такую выснову, што гэта было б справядліва».

**21 траўня жонка Сяргея Каваленкі паведаміла, што ён этапаваны ў магілёўскую калёнію № 19.** "Нам паведамілі, што ён ужо там. Учора, быццам бы, прывезьлі, але дакладнага часу не сказалі. Таксама не паведамілі ніякіх падрабязнасьцяў пра ягонае здароўе", - распавяла Алена Каваленка.

Пра тое, што Каваленка этапаваны зь віцебскага сьледчага ізалятару № 2, стала вядома 19 траўня, калі ягоная жонка прыйшла ў СІЗА, каб сустрэцца зь ім. У ізалятары ёй заявілі, што Сяргея Каваленкі ў іх ужо няма.

# Дзясяткі жыхароў Віцебскай вобласьці далучыліся да ініцыятыўнай групы, якая падрыхтуе зьмены ў выбарчае заканадаўства



1 траўня ў Менску з прапановы былога кандыдата ў прэзыдэнты Дзьмітрыя Вуса была створаная ініцыятыўная група па падрыхтоўцы законапраекту аб унясеньні зьменаў ў Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Гэтыя зьмены паспрыяюць таму, каб выбары ў краіне сталі сумленнымі і справядлівымі.

У склад ініцыятыўнай групы ўвайшлі больш за 100 чалавек з усіх рэгіёнаў Беларусі. Сярод тых, хто ўзяў удзел у сходзе па стварэньні ініцыятыўнай групы, было некалькі дзясяткаў чалавек зь Віцебскай вобласьці. Абласным каардынатарам па Віцебшчыне абраная Алена Фаміна.

*Дзьмітры Вус:* **"Тыя, хто мае ўладу, забралі права выбіраць у людзей, у народу Беларусі. Мы хочам гэтае права аднавіць. Гэта трэба рабіць, каб людзі ў Беларусі былі людзьмі..."**

# Адміністрацыя прэзыдэнта дасылае Яну Дзяржаўцаву ліст за лістом

*Вельмі зьдзівіўся віцебскі сябра КХП-БНФ* ***Ян Дзяржаўцаў****, знайшоўшы ў сваёй паштовай скрыні капэрту з адваротным адрасам адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Палітык не паверыў сваім вачам, калі расьпячатаў капэрту і прачытаў у першых радкох ліста, які быў унутры, што гэты ліст зьяўляецца адказам на ягоную скаргу. Бо літаральна некалькімі днямі раней актывіст ужо атрымліваў ліст з адміністрацыі прэзыдэнта ў адказ на тую самую скаргу. Зьмест абодвух лістоў значна адрозьніваецца адзін ад другога, таму спадар Дзяржаўцаў цяпер у разгубленасьці: якой вэрсіі адказу даць веры.*

Віцебскі апазыцыянэр пісаў у адміністрацыю прэзыдэнта скаргу на дзеяньні аднаго з чыноўнікаў мясцовай раённай адміністрацыі. Той, на думку **Яна Дзяржаўцава**, парушыў патрабаваньні закону аб зваротах грамадзян, бо на заяву аб правядзеньні пікету, афармленую на беларускай мове, адказаў па-расейску. У адміністрацыю прэзыдэнта **Ян Дзяржаўцаў** зьвярнуўся пасьля таго, як ня змог дамагчыся пакараньня нядбайнага чыноўніка, паведаміўшы пра выпадак у раённую пракуратуру і Віцебскі аблвыканкам.

Як пад першым, так і пад другім лістом з адміністрацыі кіраўніка дзяржавы стаіць подпіс начальніка галоўнага ўпраўленьня па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб **Станіслава Буко**. Гэта, бадай, адзінае падабенства між двума пасланьнямі. Усё астатняе адрозьніваецца вельмі моцна.

Ліст, які прыйшоў першым, быў досыць кароткім - усяго некалькі радкоў. У ім **Яну Дзяржаўцаву** паведамлялася, што ягоная скарга перанакіраваная ў Нацыянальны цэнтар заканадаўства і прававых дасьледаваньняў, і што менавіта гэты цэнтар падрыхтуе адказ па сутнасьці пастаўленых пытаньняў.

На напісаньне новага ліста віцебскаму актывісту спадар **Станіслаў Буко** выдаткаваў, відаць, нашмат больш часу. Адказ атрымаўся ажно на дзьве старонкі. Цяпер дзяржаўны муж ня стаў згадваць ні пра які цэнтар, якому даручана падрыхтаваць грунтоўны адказ. Такі адказ ён вырашыў даць сам. Зь ягонага адказу вынікае, што чыноўнік, які не захацеў пісаць па-беларуску, разглядаючы заяву **Яна Дзяржаўцава** пра пікет, нічога не парушыў, бо кіраваўся не законам аб зваротах грамадзян, а законам аб масавых мерапрыемствах.

Яшчэ адно адрозьненьне паміж дзьвюма вэрсіямі адказу за подпісамі **Станіслава Буко**, якое адразу кідаецца ў вочы: лісты напісаныя на розных мовах. Першы ягоны ліст быў складзены па-расейску, і гэта было ўспрынята адрасатам як відавочны зьдзек і зь беларускай мовы, і з законаў. Новая ж рэдакцыя ліста службовай асобы прэзыдэнцкай адміністрацыі выглядае як зробленая работа над памылкамі - аўтар адказу выправіўся і напісаў гэтым разам па-беларуску, што адпавядае



Ян Дзяржаўцаў

норме закону аб зваротах грамадзян, згодна зь якой адказы даюцца на мове звароту.

У сваім новым лісьце **Станіслаў Буко** нават выказвае падзяку **Яну Дзяржаўцаву** - *"за праяву актыўнай грамадзянскай пазыцыі па павышэньні статусу беларускай мовы"*. Больш таго, ён абяцае віцебскаму палітыку: *"Вашы прапановы па карэкціроўцы Закону аб масавых мерапрыемствах будуць разгледжаны пры далейшай працы па ўдасканаленьні заканадаўства Рэспублікі Беларусь"*.

## Пад Воршай затрымалі журналістку

У нядзелю 20 траўня на пад'ездзе да Воршы была затрыманая журналістка газэты «Віцебскі кур'ер» Юлія Канаплёва. У агульнай складанасьці разьбіральніцтва зь міліцыяй і ДАІ заняло больш за 3 гадзіны. Варта адзначыць, што Юлія знаходзіцца на восьмым месяцы цяжарнасьці. Супрацоўнікі ДАІ спынілі аўтамабіль а 15:40 на трасе М1, як толькі той заехаў на тэрыторыю Аршанскага раёну. ДАІшнікі не назваліся і былі бяз форменных бэйджаў. Яны загадалі Юліі Канаплёвай рушыць да Аршанскага раённага аддзелу міліцыі, не назваўшы пры гэтым прычыну затрыманьня.

Машына ДАІ суправадзіла аўтамабіль журналісткі да Аршанскага райаддзелу. Пасьля чаго супрацоўнікі аршанскай міліцыі канфіскавалі з аўтамабіля 8 сыгнальных асобнікаў новага часопісу «Пол палітыкі», які выдаецца Міжнародным цэнтрам гендэрных ініцыятываў "Адліга: жанчыны за роўнае грамадзянства", а таксама 200 асобнікаў спэцвыпуску коміксаў «Аб мясцовым самакіраваньні», выдавец «Наш дом».

Хаця канфіскаваныя матэрыялы не падпадаюць пад палажэньні аб СМІ (коміксы не зьяўляюцца пэрыядычным выданьнем), у пратаколе аб адміністрацыйным правапарушэньні малодшы лейтэнант міліцыі Ўладзімер Ларын адзначыў, што журналістка парушыла артыкул 29.9 ч.2 КаАП РБ - «незаконны распаўсюд друкаваных сродкаў масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». Міліцыянты, на дзіва, не пазбавілі Канаплёву права на законнага прадстаўніка, дазволіўшы прысутнічаць пры складаньні пратаколу праваабаронцы Міколаю Петрушэнку, які прыбыў у Воршу.

Такім чынам, паляваньне на незалежную прэсу (журналістаў і распаўсюднікаў) у Віцебскай вобласьці працягваецца. У сярэдзіне красавіка міліцыя затрымала актывіста Сяргея Соўпеля за распаўсюд газэты «Наш Дом інфа» ў Віцебску. У сакавіку міліцыя канфіскавала 25 000 газэтаў «Наш Дом інфа» на трасе Смаленск - Віцебск. Напрыканцы лютага была затрыманая добраахвотна памочніца кампаніі «Наш дом» Ганна Гадлеўскага, якая распаўсюджвала «Наш Дом інфа». А ў студзені супрацоўнікі ДАІ з пагоняй затрымалі 10-тысячны наклад «Віцебскага кур'еру» - гэта адбылося каля мястэчка Вароны, у 10 км ад Віцебску.

# Камітэт ААН па правох чалавека стаў на бок віцебскага актывіста

**Больш як чатыры гады спатрэбілася віцебскаму актывісту Сяргею Белязеку (на фота) на тое, каб дамагчыся абароны сваіх правоў. Менавіта столькі часу разглядаў ягоную скаргу на дзеяньні міліцыянтаў і пастанову суду Камітэт ААН па правох чалавеку. Вынік разгляду: прызнана, што дзяржава парушыла правы актывіста на мірныя сходы і публічнае выказваньне думак. Згодна з прынятым рашэньнем, беларускія ўлады абавязаныя забясьпечыць спадара Белязеку эфэктыўнымі сродкамі прававаой абароны і кампэнсаваць панесеную ім шкоду. Цягам 180 дзён улады павінны інфармаваць камітэт пра зробленыя імі захады, датычныя да гэтай справы.**

Сяргей Белязека зьвярнуўся ў Камітэт па правох чалавека пасьля таго, як вычарпаў усе сродкі судовай абароны ўнутры краіны. Падзеі, што спрычыніліся да звароту ў камітэт, адбыліся ў кастрычніку 2007 году. У той год на восеньскія Дзяды каля 30-ці жыхароў Віцебску вырашылі зладзіць грамадзянскую паніхіду ля вёскі Паляі - на месцы, дзе ў 1930-40-х гадох органы НКУС зьдзяйсьнялі масавыя расстрэлы невінаватых людзей. Таксама меркавалася наведаць могілкі, дзе былі пахаваныя ахвяры сталінізму.

Удзельнікі грамадзянскай паніхіды меркавалі ўшанаваць памяць загінулых падчас сталінскіх рэпрэсіяў і ўсталяваць на месцы расстрэлаў крыж. Аднак калі яны прыбылі ў раён Паляёў і пачалі выгружаць з аўтобусу складаныя часткі крыжа, якія неабходна было змацаваць, вянкі, кветкі, да іх раптам пад'ехалі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Старэйшы міліцэйскай групы - намеснік начальніка Віцебскага раённага аддзелу ўнутраных спраў маёр Ліленка кваліфікаваў працэс падрыхтоўкі да грамадзянскай паніхіды як недазволенае масавае мерапрыемства - пікетаваньне. Усім прысутным ён прапанаваў разысьціся.

Акцыю ў памяць расстраляных камуністамі ўсё ж удалося пачаць. Па завяршэньні першай часткі паніхіды - у лесе ля Паляёў - яе ўдзельнікі вярнуліся да аўтобусу, на якім прыехалі, каб адправіцца ў іншыя месцы, дзе меркавалася працягнуць мерапрыемства. Аднак патрапіць на могілкі ў ваколіцах вёсак Вароны і Копці ім у той дзень не далі. Маёр Ліленка абвясьціў, што ён перапыняе паніхіду, і што ўсе прысутныя затрымліваюцца як удзельнікі несанкцыянаванага пікету. На аўтобусе, нанятым арганізатарамі акцыі, людзей даставілі ў аддзел унутраных спраў Віцебскага раёну. Былі складзеныя пратаколы аб удзеле ў недазволеным пікетаваньні.

На наступны дзень ў судзе Віцебскага раёну адбыліся адміністрацыйныя працэсы. Пяцёра ўдзельнікаў жалоб-



най акцыі, у тым ліку і Сяргей Белязека, былі прызнаныя парушальнікамі артыкулу 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавага мерапрыемства). Штраф, прызначаны Сяргею Белязеку, склаў 20 базавых велічынь (на той час гэта было роўна 620 тысячам рублёў).

Актывіст спрабаваў абскардзіць рашэньне райсуду ў Віцебскім абласным і Вярхоўным судох. Але ўсе яго довады - што грамадзянская паніхіда гэта не пікет, а хрысьціянскі рытуал; што ўдзельнікі жалобнай акцыі ня мелі на мэце ладзіць палітычнае, сацыяльнае або эканамічнае мерапрыемства, таму ім ня трэба было зьвяртацца па адпаведны дазвол у органы ўлады; што паніхіда ня несла пагрозы нацыянальнай бясьпецы, грамадзкаму ладу, маралі і здароўю насельніцтва, не абмяжоўвала правы і свабоды іншых грамадзян - усё гэта не было ўзята судамі пад увагу. Беларуская Фэміда вырашыла, што правы, гарантаваныя Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязальніцтвамі дзяржавы, парушаныя не былі.

І вось, праз чатыры зь лішкам гады пасьля апісаных падзеяў, Камітэт па правох чалавека ААН выказаў думку, супрацьлеглую думцы беларускіх судоў: **сваім умяшаньнем у мірны сход прадстаўнікі ўлады незаконна пазбавілі грамадзян правоў як на самі мірныя сходы, гэтак і на публічнае выказваньне сваіх меркаваньняў. Як краіна - удзельнік міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, Беларусь цяпер абавязаная аднавіць парушаныя правы і зрабіць адпаведныя захады, каб пазьбегнуць аналягічных праўшэньняў правоў грамадзян у будучыні.**

## Аршанскі гарвыканкам забараніў 14 пікетаў

Аршанскі гарвыканкам, захоўваючы вернасьць традыцыям, адмовіў актывістам АГП у дазволе на правядзеньне 31 траўня пікетаў за свабодныя выбары. На ўсе 14 заявак атрыманы адмоўны адказ. Прычыны для адмоваў традыцыйныя - адсутнасьць дамоваў зь міліцыяй на ахову, мэдычнае абслугоўваньне і прыборку сьмецьця.

Варта нагадаць, што з 2007 году аршанскія ўлады не далі ніводнай згоды на правядзеньне масавых акцыяў апазыцыі. Таму гэтыя адмовы былі цалкам чаканымі. І ўсё ж самі заяўнікі не выключалі, што няхай ня ўсе 14 пікетаў, а хаця б 1-2 выканкам дазволіць. Аднак цуду ня здарылася.



## БПС-Ашчадбанк далучыўся да рэпрэсіяў у дачыненьні да грамадзкага актывіста

Раней віцебскі актывіст кампаніі “Гавары праўду", адстаўны марскі афіцэр Пётар Іваноў ужо падвяргаўся рэпрэсіям з боку ўладаў. Узімку за налепленую ўлётку ў падтрымку Сяргея Каваленкі яго арыштавалі, зьмясцілі на трое сутак у ізалятар часовага ўтрыманьня і праз суд змусілі заплаціць штраф - нібыта за нецэнзурную лаянку. **Цяпер да рэпрэсіяў супраць актывіста далучыўся БПС-Ашчадбанк, беспадстаўна забараніўшы яму карыстацца ўласнымі грашыма, пакладзенымі ў банк на захоўваньне.**




У БПС-Ашчадбанку актывіст мае дэпазытны рахунак. І вось, калі ён зьвярнуўся ў аддзяленьне банку, каб атрымаць працэнты па банкаўскім укладзе, яму нечакана адмовілі ў выдачы грошай. Спаслаліся на тое, што ягоны рахунак арыштаваны. Супрацоўнікі БПС-Ашчадбанку паведамілі актывісту, нібыта яны арыштавалі рахунак згодна з вызначэньнем суду.

Навіна вельмі зьдзівіла спадара Іванова. Надоечы, сапраўды, уступіла ў сілу судовае рашэньне аб спагнаньні зь яго грашовых сродкаў. Аднак тэрмін добраахвотнага выкананьня гэтага рашэньня яшчэ ня скончыўся. Менавіта для таго, каб выканаць рашэньне выканаўчай вытворчасьці суду добраахвотна, у належны тэрмін, Пётар Іваноў і хацеў зьняць грошы са свайго рахунку...

**Арышт грошай на рахунку Пётар Іваноў лічыць незаконным. Больш таго, нават калі б банк меў законныя падставы зрабіць гэта, ён павінен быў бы абмежавацца толькі той сумай, якая адпавядае памеру накладзенага судом спагнаньня. Забараніць жа карыстацца рэштай грошай уладальніку рахунку банк ня меў права ні ў якім разе.**

На сваім рахунку актывіст мае сродкаў амаль у 10 (!) разоў больш, чымся тая сума, якую мусіць сплаціць паводле судовага рашэньня. Зусім не зразумела, чаму супрацоўнікі банку самачынна вырашылі арыштаваць усе гэтыя сродкі.

Банкаўскія службоўцы ня толькі пазбавілі грамадзкага актывіста магчымасьці скарыстацца са сваіх уласных грашовых сродкаў. Вядучы спэцыяліст аддзяленьня банку Людміла Абрамаенка нават адмовіла яму ў выдачы даведкі альбо іншага пісьмовага пацьверджаньня таго, што сума працэнтаў па дэпазытным рахунку не была выдадзеная з прычыны накладзенага на руханак арышту.

**“Такім чынам, супрацьзаконна былі створаныя перашкоды для добраахвотнага выкананьня мною рашэньня выканаўчай вытворчасьці, - сьцьвярджае Пётар Іваноў. - Мой банкаўскі ўклад насамрэч быў нячыста выкарыстаны для аказаньня на мяне супрацьпраўнага ціску".**

БПС-Ашчадбанк зьяўляецца адным з найбуйнешых банкаў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі краіны. Фактычным уладальнікам банку зьяўляецца “Сбербанк Расеі". У сьнежні 2009 году расейскі бок падпісаў з урадам Рэспублікі Беларусь пагадненьне пра набыцьцё “Сбербанкам Расеі" 93,27% акцыяў ААТ “БПС-Банк", пасьля чаго апошні стаў называцца “БПС-Ашчадбанк".

**“Рэгіянальная дырэкцыя № 200 ААТ ‘БПС-Ашчадбанк' Віцебску незаменна падарвала мой давер ня толькі да непасрэднага ўкладаатрымальніка, але і да ‘Сбербанку Расеі', - абураецца Пётар Іваноў. - Як грамадзянін Расеі, успрымаю гэткую рэчаіснасьць з агідай і гідлівасьцю". Актывіст запатрабаваў ад кіраўніцтва аддзяленьня БПС-Ашчадбанку прынесьці яму пісьмовыя выбачэньні, а таксама пакрыць прычыненую маральную шкоду.**

Ці зьяўляецца выпадак, што адбыўся зь віцебскім актывістам, адзінкавым здарэньнем? Ці працягне БПС-Ашчадбанк цкаваць “іншадумцаў"? Ці далучацца да новай кампаніі перасьледу тых, хто не да спадобы ўладам, іншыя банкі? - Адказы на гэтыя пытаньні дасьць час.



Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.